


# Беларус

БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ — БЕЦЕ МЯЧАМІ! НЕ ДАВАЙЦЕ ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!

*Максім Багдановіч (1891-1991)*

№ 393 Верасень 1992
Год. выд. XLI

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!

З радасцю і хваляваннем вітаю вас, удзельнікаў і гасцей юбілейнай, 20-й сустрэчы беларусаў Паўночнай Амэрыкі.

Мне прыемна, што сабраліся вы неўзабаве пасля таго, як наша агульная гістарычная Радзіма ўпершыню адзначыла сваё выдатнае нацыянальнае свята — Дзень Незалежнасьці. Спадзяюся, што для ўсіх беларусаў гэта была не проста ўрачыстасць — гэта было сведчанне ажыццяўлення шматгадовых мар аб вольнай і незалежнай Радзіме.

Як і вы, я шчыра ганаруся, што наша краіна стала паўнапраўным сябрам сусветнага цывілізаванага супольніцтва. Суверэнную Рэспубліку Беларусь прызналі больш за сто дзяржаў свету, 58 наладзілі ўжо з ёю дыпламатычныя адносіны.

Горка нагадваць, але доўгі час гістарычная Радзіма была для вас не роднай маці, а злоснай мачыхай, якую не турбаваў лёс дзяцей, рознымі шляхамі закінутых за яе межы. Няма ў тым віны беларускага народу, і Беларусь шчыра ўдзячна вам, дарагія суайчыннікі, што вы не забылі матчынай зямлі, што адданасць ёй, яе гісторыі пранеслі праз гады і пакуты.

Вольны вецер перамен нясе нашай Бацькаўшчыне адраджэньне нацыянальнай самасвядомасці, нацыянальнай культуры, роднай мовы. Але поўнае адраджэнне Беларусі яшчэ наперадзе і для яго трэба шмат і напружана працаваць. У гэтай справе мы шчыра спадзяёмся на вашы разуменне, падтрымку і дапамогу. Прыйшоў наш час, і мы, нашчадкі Ефрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Кастуся Каліноўскага, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа, пацвярджаем — Беларусь жыла, жыве і будзе жыць!

**Станіслаў Шушкевіч**
**Старшыня Вярхоўнага Савета**
**Рэспублікі Беларусь**

## ДАРАГІЯ СУРОДЗІЧЫ!

Беларускі Народны Фронт «Адраджэньне» шчыра вітае 20-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі!

Мы памятаем, што трагічныя павароты беларускай гісторыі вымусілі шмат каго з Вас пакінуць Бацькоўшчыну, прайсьці пакутныя змагарныя дарагі. Духоўная лучнасьць беларусаў на Бацькаўшчыне і на эміграцыі заўжды мацавалася вераю ў тое, што сонца незалежнасьці зазьзяе над нашаю старажытнаю краінай, што Беларусь скіне ненавіснае камуністычнае ярмо і адродзіцца да годнага жыцьця сярод іншых дзяржаваў Эўропы й сьвету. І сонца пачало ўзыходзіць, і стала ўздымацца з каленяў наша Бацькаўшчына. Адраджаецца мова, гістарычная памяць, нацыянальная годнасьць.

Але гэта — толькі пачатак Адраджэньня, якое ідзе надта ж няпроста. Так, над урадавымі будынкамі лунае наш сьвяты бел-чырвона-белы сьцяг, адраджаецца наш адвечны беларускі герб — няскораная Пагоня. Аднак па-ранейшаму ля ўлады тыя, хто змагаўся супраць незалежнасьці, супраць мовы й культуры нашага народу, хто дзеля вяртаньня камуністычных парадкаў гатовы зноў аддаць Бацькаўшчыну ў няволю. Ды народ Беларусі больш не дазволіць гэтага.

У барацьбе за сапраўды незалежную, дэмакратычную, адроджаную Беларусь мы разам. Хай шчасьціць Вам, дарагія сябры!

Жыве Беларусь!

**Зянон Пазьняк,**
**Старшыня Беларускага Народнага**
**Фронту «Адраджэньне»**

## РЭЗАЛЮЦЫЯ
### 20-Й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ Ў НЬЮ-БРАНСЬВІКУ, Н.-ДЖ., 5-7 ВЕРАСЬНЯ 1992 ГОДУ.

Дваццатая сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі сьцьвярджае:

1. Дэмакратычны працэс на Беларусі ідзе штучна запавольненымі тэмпамі, спавальняючы рэформы і спрычыняючы эканамічны спад. Галоўная прычына гэтага замаруджваньня ў тым, што структура і склад Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, які выбіраўся не як парлямант сувэрэннай дзяржавы, а як мясцовы орган часткі былой савецкай імпэрыі, не адпавядаюць насьпелым патрэбам мамэнту — інтэнсыўна распрацоўваць заканадаўства незалежнай дзяржавы і сачыць за яго выкананьнем.

Наяўнасьць сярод дэпутатаў Вярхоўнага Савету недэмакратычна абраных заканадаўцаў і такіх, якія займаюць адначасна адміністрацыйна-выканаўчыя пасады, ня толькі не дае аптымальных вынікаў, але пярэчыць самому прынцыпу дэмакратыі. Беларусь безадкладна патрабуе дэмакратычна абранага вышэйшага заканадаўчага органу, які працаваў бы толькі як парлямант, прафэсійна.

2. Вярхоўны Савет і Ўрад Беларусі мусілі б больш актыўна праводзіць палітыку незалежнай дзяржавы ў адпаведнасьці з Дэкларацыяй аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі і больш энэргічна спрыяць дэмакратызацыі ейнага палітычна-грамадзкага ладу; больш клапаціцца пра інтарэсы беларусаў замежжа, спрыяць вяртаньню на Бацькаўшчыну тых, хто апынуўся вонках Беларусі на абшарах былога СССР, што у першую чаргу датычыць

*Працяг на 2-й б.*

THE WHITE HOUSE
WASHINGTON

September 3, 1992

I am delighted to send greetings to all those who are gathered in New Brunswick for the 20th Biennial Convention of the Belarusians of North America. A special welcome to your guests from abroad.

In the two years since you last met, maps have literally been redrawn as nations around the world have experienced a new birth of freedom and democracy. Last December, the United States was proud to recognize the independence of a newly freed Belarus and to establish the basis for increasing bilateral and multilateral cooperation. As you celebrate the bright future that awaits your friends and relatives in Belarus, I pledge to you my full and continuing support for their efforts to establish stable, democratic government and a market-oriented economy, and I add my voice to your prayers for peace throughout the region.

As I have stated to President Shushkevich, Americans share the commitment to liberty and justice that has been demonstrated by the courageous people of Belarus. We also understand the many challenges that they face in overcoming the cycle of stagnation and decline that marked decades of communist rule. Having enjoyed the benefits of freedom, along with the prosperity that has been generated by private enterprise and free markets, we remain eager to encourage and assist our Belarusian friends in their historic task. I welcomed the cooperation of President Shushkevich in efforts to fulfill international agreements on the reduction of nuclear weapons, and my Administration will continue to promote American economic and technical assistance for Belarus.

Barbara joins me in sending best wishes for a productive and enjoyable convention.



STATE OF NEW JERSEY
OFFICE OF THE GOVERNOR
TRENTON
08625

JIM FLORIO
GOVERNOR

Dear Friends: September 5, 1992

On behalf of the State of New Jersey, I would like to extend warm greetings to everyone attending the 20th Biennial Convention of representatives of the Belarusan American Association and Canadian Alliance.

Over the years, the Belarusan American community has developed deep roots in New Jersey. In addition to their important involvement in our state's professional and civic affairs, New Jersey's Belarusan citizens have distinguished themselves by expressing their vocal support for democratic values and human rights around the world. In fact, Americans of Belarusan descent can take great pride in knowing that their efforts have served as a moving force behind the recent reestablishment of democracy in Belarus. With the continued support of Belarusan citizens living in New Jersey and across the United States, I'm confident that Belarus will continue to grow and prosper as a proud member of the community of free nations.

Again, please accept my best wishes for a successful convention. Your achievements are a source of pride and inspiration for all of us.

Very truly yours,

JIM FLORIO
Governor

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## ПРЫНЯЦЬЦЁ ПРЫСЯГІ АМЭРЫКАНСКІМ АМБАСАДАРАМ ДЛЯ БЕЛАРУСІ



*Дэвід Суорц прымае прысягу, зьлева ад яго, сп-ня Суорц.*

25-га жніўня, у дзень першай гадавіны абвешчаньня незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, новапрызначаны амэрыканскі амбасадар для Беларусі Дэвід Суорц прыняў прысягу і гэтым самым стаў найвышэйшым прадстаўніком Злучаных Штатаў Амэрыкі на нашай Бацькаўшчыне.

Прыняцьце прысягі адбылося ў залі Бэнджаміна Франкліна ў Дзяржаўным Дэпартамэнце ў Вашынгтоне.

На ўрачыстасьці прысутнічалі амэрыканскія дыпляматы, прадстаўнікі дыпляматычнага корпусу ў Вашынгтоне, працаўнікі Дзяржаўнага Дэпартамэнту, ды блізкія сваякі амэрыканскага дыплямата. Рэспубліку Беларусь рэпрэзантаваў беларускі консул Міхал Хвастоў, заступнік часова паверанага ў справах Беларусі ў Злучаных Штатах Амэрыкі. Ад Беларусаў Амэрыкі на ўрачыстасьць былі запрошаныя старшыня Беларускага Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Расьціслаў Завістовіч і сп-ня Іраіда Завістовіч.

5-га верасьня Суорцы адлятаюць у Менск, дзе новы амбасадар перад ягоным зацьверджаньнем у сэнацкім камітэце па замежных справах працаваў ужо некалькі месяцаў часова паверaным у справах ЗША ў Беларусі.

**Р.З.**

**РЭЗАЛЮЦЫЯ.** *Працяг з 1-ай б.*

беларусаў-вайскоўцаў, якія знаходзяцца на чужыне і жадаюць служыць Беларусі.

Асаблівая ўвага павінна надавацца адраджэньню нацыянальнай культуры, адукацыі, беларускай мовы. Толькі на глебе нацыянальнай сьведамасьці, у спалучэньні са справядліва аплочанай працай, можа адрадзіцца пачуцьцё грамадзянскай годнасьці, а разам зь ім пачуцьцё адказнасьці за якасьць арганізацыйнай і эканамічнай дзейнасьці, за якасьць прадукцыі працы.

3. Беларуская эміграцыя і ейныя нашчадкі ў Злучаных Штатах і ў Канадзе горача падтрымваюць ідэю адраджэньня сувэрэннай і дэмакратычнай беларускай дзяржавы, перабудову эканомікі Беларусі на прынцыпах вольнага рынку ды справу забясьпечаньня дэмакратычных свабодаў усім ейным грамадзянам бяз розьніцы на этнічнае паходжаньне ці сьветагляд. У сувязі з гэтым амэрыканскія і канадзкія грамадзяне беларускага паходжаньня выкарыстоўваюць свае кантакты і ўплывы, каб спрыяць адраджэньню вольнай Беларусі.

4. Апошнім часам аднам сілы старога ладу на Беларусі аднавілі кампанію ачарняньня маральных аўтарытэтаў беларускага нацыянальнага руху, у першую чаргу лідэраў беларускай вайсковасьці. За гэтай прапагандавай кампаніяй хаваецца намаганьне паслабіць фронт нацыянальна-дэмакратычных сілаў на Беларусі і падкасіць салідарнасьць зь імі беларускай эміграцыі.

5. Афіцыйныя колы Беларусі, у тым ліку Міністэрства замежных справаў, згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» і іншыя структуры, выступілі з прапановай правесьці ў 1993 годзе ў чэрвені-ліпені сусьветны зьезд («кангрэс») беларусаў. Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне і Згуртаваньне Беларусаў Канады падтрымваюць у прынцыпе гэтую насьпелую ідэю і ўдзел свой у ажыцьцяўленьні гэтага праекту абумоўліваюць далейшым ходам працэсу дэмакратызацыі на Беларусі і нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва.

6. Беларуская эміграцыя будзе і надалей сачыць ход падзеяў на Беларусі:

а) ці ня будзе замаруджвацца працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня;

б) ці будзе выкананая воля вялікае колькасьці выбаршчыкаў, выказаная ў адпаведнасьці з законам аб рэфэрэндуме;

в) ці будзе дадзены парляманцкай апазыцыі і дэмакратычным партыям і рухам час на пэрыядычныя выступленьні ў рэспубліканскім радыё і на тэлебачаньні (як гэта робіцца ў дэмакратычным заходнім сьвеце);

г) ці будуць спыненыя перашкоды нармальнай дзейнасьці канструктыўнай апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце;

д) ці будуць спыненыя неўдакумэнтаваныя абвінавачаньні беларускіх нацыянальных лідэраў.

7. Урад Беларусі мусіць зьмяніць сваю палітыку ў дачыненьні да забруджанае чарнобыльскай радыяцыяй тэрыторыі, узмацняючы праграму перасяленьня людзей, а не фінансаваньня іхнага там перабываньня, бо такое фінансаваньне прыцягвае жыхароў з часьцейшых раёнаў Беларусі, вядучы да росту сьмяротнасьці і захворваньняў. Мы прапануем, каб Урад Беларусі рабіў большыя намаганьні запрасіць замежныя фірмы для наладжаньня вытворчасьці мэдыкамэнтаў у Рэспубліцы, якіх вельмі патрабуе беларускае жыхарства.

8. Дваццатая сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі выказвае спадзяваньне, што справа (расьсьледаваньня) камуністычнага генацыду на Беларусі (Курапаты і ўсе іншыя злачынствы) ня будзе спыненая ды, што памяць ахвяраў бальшавізму будзе ўшанаваная пабудовай адпаведнага мэмарыяльнага комплексу.

9. Адраджэньне рэлігіі на Беларусі павінна спрыяць адраджэньню беларускіх рэлігійных традыцыяў, беларускай мовы, культуры, духовасьці, а ня быць прыладаю палянізацыі, русыфікацыі ці іншай формы дэнацыяналізацыі беларусаў.

10. Для прысьпешаньня адраджэнскага і дэмакратычнага працэсу на Беларусі, для ўздыму эканомікі і матар'яльнага дабрабыту патрэбныя як мага шырэйшыя культурныя і дзелавыя сувязі паміж грамадзянамі Беларусі і грамадзянамі заходніх краін. Беларуская эміграцыя гатовая прыкласьці ўсе сілы, каб гэткія сувязі пашыраліся і замацоўваліся на агульнае дабро беларускага народу.

Жыве Беларусь!

Нью-Брансьвік, 6 верасьня 1992 г.

**Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Згуртаваньне Беларусаў Канады**

# ПОСЬПЕХІ БЕЛАРУСКІХ СПАРТОЎЦАЎ НА АЛІМПІЙСКІХ ГУЛЬНЯХ У БАРСЭЛЁНЕ.

Спартоўцы-рэпрэзэнтанты Беларусі бралі ўдзел у 25-тых Летніх Алімпійскіх Гульнях, што адбываліся ў Барсэлёне (Гішпанія) у першай палавіне жніўня г.г.

Сёлета Беларусы выступалі яшчэ ў складзе г. зв. «Задзіночанае Каманды», якая рэпрэзэнтавала Супольнасьць Незалежных Дзяржаваў, г. зн. 12 рэспублікаў былога Савецкага Саюзу. За 2 гады, у Зімовых Алімпійскіх Гульнях, якія адбудуцца ў 1994 г. у Нарвэгіі, Беларусь возьме ўдзел, як незалежная спартовая адзінка.

Тое-ж датычыцца наступных Летніх Гульняў у 1996 г. у г. Атлянта (ЗША).

Сёлета ў Барсэлёне індывідуальныя перамогі спартоўцаў із былых савецкіх рэспублікаў былі адзначаныя падняцьцем іхніх нацыянальных сьцягоў (гэтак адзначаныя 1-а, 2-ое й 3-яе месца), ды адыграньнем нацыянальных гімнаў гэтых дзяржаваў (за 1-шае месца).

Гэтак, ужо на другі дзень гульняў, гледачы пабачылі дасюль няведамы на міжнароднай арэне бел-чырвона-белы сьцяг і пачулі гімн Беларусі — пасьля здабыцьцяа Канстантынам Лукашыкам першага месца ў стральбе зь пісталета на 50 мэтраў.

Наагул, беларускія спартоўцы здабылі 13 залатых мэдаляў (1-шых месцаў) і 3 срэбныя мэдалі (2-ія месцы).

Ніжэй адзначым паасобныя посьпехі:

**1-шае месца:** Алена Рудкоўская — плаваньне на 100 мэтраў
Канстантын Лукашык — стральба зь пісталета на 50 мэтраў.
Віталі Шчэрба — у агульнай гімнастыцы мужчын.
— як сябра пераможнай «Задзіночанай» каманды
— і 4 далейшыя залатыя мэдалі ў розных відах гімнастыкі
Алесь Курловіч — у падыманьні цяжараў (катэгорыя супэрцяжкой вагі)
Дзьмітры Даўгалёў і Аляксандар Масейкаў — байдарка 500 мэтраў.

**2-ое месца:** Ірына Лашко — у ныраньні з вышыні 3-ох мэтраў
Ігар Астапковіч — у кіданьні молатам
Леанід Тараненка — у падыманьні цяжараў

Калі-б ужо сёлета Беларусь выступала зусім незалежна й посьпехі яе падлічаліся мэтадам удзельнае вагі (3 пункты за 1-шае месца, 2 пункты за 2-ое месца, 1 пункт за 3-яе месца), дык Беларусь здабыла-б 31 пункты й 16-ае месца сярод 66 нацыяў, якія здабылі алімпійскія мэдалі.

Беларусь, якая налічвае 10.2 мільёнаў жыхарства, здабыла аднолькавую колькасьць пунктаў, як Польшча з амаль 40-мільённым насельніцтвам.

20-цігадовы гімнаст Віталі Шчэрба зь Менску стаў сусьветным алімпійскім чэмпіёнам у галіне мужчынскай гімнастыкі, ды здабыў найбольш посьпехаў у гэтай галіне за ўсю гісторыю алімпійскіх гульняў.

Віталі Шчэрба выказаўся, што ў блізкай будучыні думае пераехаць у Нямеччыну а пазьней можа ў ЗША, дзе спадзяецца знайсьці лепшыя абставіны для трэнінгу й разьвіцьця сваее спартовае кар'еры. Аднак у міжнародных спаборніцтвах ён будзе заўсёды выступаць пад сьцягам Беларусі — запэўніў В. Шчэрба.

Наш беларускі асілак, Алесь Курловіч з Горадні, заявіў, што цяпер будзе выступаць пад сьцягам Беларусі.

**Ю.С.**

## ЯШЧЭ ДА АЛІМПІЯДЫ

Пасьля распаду Савецкага Саюзу ў сьнежані 1991 году і ўтварэньня Супольнасьці Незалежных Дзяржаваў, нерасейскія рэспубліканскія спартовыя арганізацыі пачалі меркаваць аб утварэньні сваіх незалежных спартовых дружынаў, каб выступаць самастойна на Алімпіядах. Але гэтая справа была скамплікаваная з увагі на тое, што кіраўніцтва усесаюзным спортам было ў руках Масквы і пераважна расейскіх трэнераў, ды месца трэнаваньня знаходзілася найчасьцей на тэрыторыі Расеі і фінансава былі ад яго залежныя.

Дзеля гэтага нерасейскія рэспубліканскія спартовыя арганізацыі былі пагадзіліся выступаць у Барсэлёне як Спалучаная Дружына (па-ангельску — United Team) але пад сваімі сьцягамі і ад сваіх краінаў.

Беларускія спартсмэны і спартсмэнкі ў ліку 53-х асобаў прымалі ўдел у Алімпіядзе, рэпрэзэнтуючы амаль усе віды спорту.

Зь беларускіх спартсмэнаў найбольш вызначыўся Віталі Шчэрба зь Менску, які здабыў шэсьць залатых мэдаляў. Прыемна было бачыць на тэлебачаньні, калі Шчэрбу ўручалі залатыя мэдалі ды беларускі сьцяг маэстэтычна падносіўся.

Пазьней мы даведаліся, што пры падняцьці бел-чырвона-белага сьцягу, гымн, на вялікі жаль, выконваўся яшчэ стары савецкі бээсэсэраўскі «Мы Беларусы з братняю Русьсю»…

Спадзяемся, што на будучай Алімпіядзе беларускія спартсмэны выступяць самастойна.

**Др. Вітаўт Рамук**

# 20-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ



*На адчыненьні Сустрэчы.* *Фота А. Дубягі*




Праграма сёлетняй 20-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі 5-7 верасьня адбывалася ў кольких месцах: на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку (супольная малітва ля помніка гэроям Беларусі), у гатэлі Гаят-Рыджэнсы ў Нью-Брансьвіку (сымпозіюм, банкет, канцэрт), у Саўт-Рывэры (вечарына ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры), у Гайленд-Парку (багаслужба Мітрапаліта БАПЦ Мікалая ў суслужэньні духавенства ў царкве Жыровіцкай Божай Маці). Усё прайшло памысна як з гледзішча на колькасьць удзельнікаў (каля 400 асобаў), гэтак і ў арганізацыйным ды палітычным сэньсе.

Удзельнікаў Сустрэчы віталі пісьмова Прэзыдэнт ЗША Джордж Буш, Старшыня Беларускага Народнага Фронту Зянон Пазьняк (прывітаньне прачытаў ягоны заступнік, дэпутат Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь Валянтын Голубеў); Старшыня Вярхоўнага Савету РБ Станіслаў Шушкевіч (прывітаньне прачытаў і ад сябе прывітаў пасол РБ пры ААН Генадзь Бураўкін); губэрнатар штату Нью-Джэрзі Джым Флёрыё; народны пісьменьнік Беларусі Васіль Быкаў, паэт Рыгор Барадулін, гісторык праф. Анатоль Грыцкевіч, старшыня Беларускага Эвангелічнага Рэфармацкага Збору Лявон Ліпень, (прывітаньні ад чатырох апошніх і ад сябе самого прачытаў старшыня клюбу «Спадчына» Анатоль Белы); прывітаньні прыслалі беларускія арганізацыі з розных краін.

Асабіста віталі Сустрэчу старшыня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелайць, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Канады сп. Мікола Ганько, старшыня Рады БНР др. Язэп Сажыч, старшыня Кангрэсавага Камітэту Амэрыкі сп. Расьціслаў Завістовіч, старшыня Зугуртаваньня Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчыны» сп. Яўген Лецка ды іншыя госьці.

У духу 19-й клiўлендзкай Сустрэчы 1990 году сёлетняя сталася далейшым этапам яднаньня Беларусаў Амэрыкі й Канады з Бацькаўшчынай-Беларусяй. Паспрыялі гэтаму ў вялікай меры большыя магчымасьці апошнім часам наведваць Беларусь, свабодна падарожнічаць там, цясьнейшая лучнасьць эмігрантаў са сваякамі на родных землях, пашыраныя кантакты з прадстаўнікамі беларуськага ўраду і Вярхоўнага Савету ды беларускім грамадзтвам наагул.

Палепшаньне дачыненьняў с дыяспарай навяло на думку Міністэрства замежных спраў РБ і Згуртаваньне Беларусаў Сьвету «Бацькаўшчына» прапанаваць правесьці ўлетку 1993 году ў Менску сусьветны зьезд Беларусаў. Праект гэты горчача дэбатаваўся на Сустрэчы ў Нью-Брансьвіку, хоць засталося яшчэ шмат нявысьветленых дэталяў такога мерапрыёмства.

Дэмакратычныя працэсы, што адбываюцца цяпер на Беларусі, знайшлі сваё адлюстраваньне і на Форуме Сустрэчы. Гэтак, на пленарным паседжаньні сымпозіюма на тэму «Беларусь на шляху да незалежнасьці» пасьля выступленьня Міністра замежных спраў Пятра Краўчанкі, які гаварыў пра дасягненьні свайго ўраду, прамаўляў дэпутат Вярхоўнага Савету Валянтын Голубеў, ён-жа Сакратар камісіі на міжнародных справах ВС. Сп. Голубеў пункт па пункце запярэчыў цьверджаньням сп. Краўчанкі. Голубеў крытыкаваў сучасны ўрад Беларусі за ненаважанасьць у абароне нацыянальна-дзяржаўных ітарэсаў Рэспублікі. Амэрыканскія й канадзкія Беларусы, якім даводзіцца ў сваіх краінах быць частымі сьведкамі падобных спрэчак паміж палітыкамі, успрынялі выступленьні Краўчанкі й Голубева, як знак поступу свабоды слова на Беларусі. Сваймі-ж воплескамі аўдыторыя засьветчыла большую вераготнасьць слоў дэпутата Голубева.

На пленарным паседжаньні сымпозіюму, якое адчыніла й вяла сп-ня Галіна Русак, апрача Краўчанкі й Голубева гаварылі Вячаслаў Станкевіч (эканамічныя праблемы Беларусі), Васіль Русак (рэлігійныя дычыненьні) і Янка Запруднік (агульныя абагульненьне). Далей сымпозіюм працаваў у чатырох сэкцыях: палітыка, эканоміка, Чарнобыль, рэлігія. Сэкцыямі кіравалі, адпаведна: спсп. Язэп Арцюх, Вячаслаў Станкевіч з Адамам Акулічам, Івонка Сурвіла і Мікола Ганько.

Агульная атмасфэра Сустрэчы была сьвяточна-ўрачыстая і аптымістычна-бадзёрная — найлепшае пацьверджаньне кліча «Жыве Беларусь!», якім прамоўцы закончвалі свае выступленьні.

Спрыялі добраму настрою ўдзельнікаў і надвор'е, і камфорт прасторнага гатэлю, і стэнды з кніжкамі ды сувэнірамі, транспаранты й плякаты, што абвяшчалі 20-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, а таксама густоўна разьмешчаныя экспанаты мастацкай выстаўкі, у якой былі прадстаўлены творы Ірэны Рагалевіч-Дутко, Надзі Кудасавай, Сяргея Крыштаповіча, Лышыка, Людмілы Маюхнюк, Алега Махнюка, Галіны Русак, Ст. Тамары, Яўгена Шыраева і Івонкі Сурвілы.

Твары ўдзельнікаў сьвяціліся ўсьмешкамі й радасьцяй ад сустрэчаў са старымі сябрамі й новымі знаёмымі з Бацькаўшчыны. Прыкладам, шмат каму з былых жыхароў Бэльгіі было вельмі прыемна ізноў пабачыць свайго даўнага знаёмага бэльгійскага Беларуса сп. Пятра Барысіка.

Сустрэча сталася нагодай для вучнаў былой Гімназіі імя Янкі Купалы, што працавала ў 1946-1948 гадох у Заходняй Нямеччыны, правесьці сваё спадканьне. Адбыўся таксама сход актывістаў і прыхільнікаў Фонду Адраджэньня Беларусі, арганізацыі моладзі.

Сустрэча была прысьвечаная адзначэньню 75-х угодкаў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, аб чым быў і асноўны **даклад д-ра Вітаўта Кіпеля на банкеце. Ніжэй падаем вытрымкі з дакладу.**

Можна прыпушчаць, што будучыя гісторыкі, пэрыядызуючы дваццатае стагодзьдзе ў гісторыі Беларусі, назавуць яго пэрыядам дзяржаўнасьці і пэрыядам народагубства. Аргумэнты ў падтрымку дзяржаўнасьці Беларусі гэткія. Упяршыню ідэя стварэньня сучаснае беларускае дзяржавы была сфармуляваная на шырокім палітычным форуме — Першым Усебеларускім Кангрэсе ў 1917 годзе. Ідэя была ўжыцьцёўленая 25 сакавіка 1918 году, калі была абвешчаная незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі.

У наступныя гады й дзесяцігодзьдзі ідэя дзяржаўнасьці Беларусі выказвалася й колькіразовых абвешчаньнях Савецкай Беларусі; пастановы Першага Ўсебеларускага Кангрэсу былі падцьверджаныя Другім Усебеларускім Кангрэсам у 1944 годзе; беларуская дзяржаўнасьць была замацаваная абвешчаньнем сувэрэннасьці БССР у 1990 годзе, ды абвешаньнем незалежнасьці Рэспублікі Беларусь у 1991 годзе.

Імкненьне беларускага народу да адраджэньня свае дзяржавы ў 20-м стагодзьдзі вачавідкі, а пачатак гэтаму працэсу даў першы Ўсебеларускі Кангрэс.

Факты-ж народагубства на Беларусі ў 20-ым стагодзьдзі гэткія: ахвяры Першае і Другое Сусьветных войнаў, разгром беларусаў у Польшчы ды раскулачаньне ў БССР у дваццатых гадох, рэпрэсіі 30-х, 40-х і 50-х гадоў, вывазы на цаліну й «стройкі камунізму» ў 50-х і 60-х гадох, ды ахвяры чарнобыльскае катастрофы, пачынаючы ад 1986 году. Дасюль дэмаграфічныя згубы беларускае нацыі аблічаюцца 6-8 мільёнамі душаў, але, дзякуючы Чарнобылю, гэта яшчэ не канец! Гэткім парадкам, генацыд над беларускім народам у 20-м стагодзьдзі — факт цьвёрды.

І вось, з пэрспэктывы часу, бяручы як базу беларускае дзяржаўнасьці прынцыпы сфармуляваныя на Першым Усебеларускім Кангрэсе, трэба ацаніць сягоняшнюю Рэспубліку Беларусь.

Няма ў тым ніякага сумлеву, што Рэспубліка Беларусь, не сувэрэнная Беларуская дзяржава. У рэспубліцы ўсё ячшэ валкуецца, якой мовай карыстацца ў гэтай «дзяржаве», якія ў «дзяржаве» маюць быць школы, царкоўныя юрысдыкцыі і г.д. Беларускасьці ў гэтым працэсе адводзіцца ніяк не асноўнае месца... Сам па сабе факт ненармальны й супярэчлівы прынцыпам незалежнае дзяржаўнасьці.

Але, асноўная розьніца сёньняшняе Рэспублікі Беларусь, раўнуючы яе да асноваў на якіх стваралася Беларуская Народная Рэспубліка — гэта адсутнасьць выбарнасьці, дэмакратычнасьці. Калі на Першым Усебеларускім Кангрэсе аб лёсе Беларусі гаварылі і пастанаўлялі абранцы народу, выбраныя прадстаўнікі, дык у сёньняшнім парламэнце Рэспублікі Беларусь усё яшчэ засядаюць і дзейнічаюць «прадстаўнікі» старое сыстэмы, сыстэмы, якая зьнішчала і беларускую дзяржаўнасьць і праводзіла генацыд беларускае нацыі. І датуль пакуль на Беларусі ня будзе **свабодных, ўсенародных, дэмакратычных** выбараў аб дзяржаўнасьці нашае Бацькаўшчыны гаварыць можна толькі тэарытычна.

І наш абавязак сёньня, абавязак, як носьбітаў ідэі незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі, носьбітаў ідэяў Першага Ўсебеларускага Кангрэсу, камуфляж старое камуністычнае сыстэмы раскрываць, і дамагацца дэмакратычных выбараў у Беларусі. Думаю, што не памылюся, калі выкажу меркаваньнё, што гэта таксама пагляд шырокіх колаў беларускага народу, які спадзяецца на лепшую долю ў пасьля-камуністычную эпоху.

Вельмі людная і ўдалая была вечарына ў саўтрывэрскім Беларускім Грамадзкім Цэнтры пад добрую музыку й песьні (некаторыя ў выкананьні менскіх гасьцей) аркестру Алекса Мартыновіча.

За банкетным сталом у нядзелю галоўнымі прамоўцамі былі Міністар замежных спраў Пётр Краўчанка, др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мацтацтва, і сп-ня Валянтына Трыгубовіч, старшыня камісіі замежных сувязяў Беларускага Народнага Фронту. Сп. Кіпель гаварыў пра Ўсебеларускі Кангрэс 1917 году і Беларускую Народную Рэспубліку ды ідэйную пераемнасьць сучаснага руху за незалежнасьць Беларусі. Сп-ня Трыгубовіч — пра сучасны палітычны стан на Беларусі, шырокую падтрымку рэфэнэндуму ды ідэі незалежнасьці і перашкоды дэмакратызацыі з боку былой партыйнай намэнклятуры.

Банкет закончыўся прыняцьцем рэзалюцыі.

Неўзабаве пасьля гэтага адбыўся багаты канцэрт, у прагаме якога выступілі заслужаныя артыстKі Беларусі Валянтына Пархоменка і Тацьцяна Мархель, сьпевакі-музыканты Алесь Казак і Ўладзімер Бучэль, паэт Сяржук Сокалаў-Воюш, клiўлендзкі хор «Васількі» пад кіраўніцтвам Олі Лукашэвіч, баяніст Хведар Паўлавец, кампазытар і акампаніятар Яўген Магаліф, заслужаны саліст Рэспублікі Мікола Скорыкаў, кампазытар і музыкант Зьмітрок Яўтуховіч, паэт Леанід Пранчак і сьпявачка Іна Афанасьева.

Канцэртная праграма закончылася супольным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

20-я Сустрэча вымагала ці малога арганізацыйнага высілку. Вялікую частку цяжару ўзнаў на сябе ньюджерзійскі адзьдзел БАЗА (старшыня сп. Янка Азарка). Сябры адзьдзелу супольна з тымі, хто й не належыць да БАЗА, папрацавалі з добрымі для агульнай справы вынікамі. Вельмі добра справіўся са сваймі абавязкамі старшыні арганізацыйнага камітэту й вядучага Сустрэчы сп. Юрка Азарка.

У арганізацыйны камітэт Сустрэчы ўваходзілі (у альфабэтным парадку): Юрка Азарка (старшыня), Янка Азарка, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Ала Орса-Рамана, Васіль Русак і Галіна Русак.

Стараньнямі ньюджерзійскага адзьдзелу БАЗА, а таксама Згуртаваньня Беларусаў сьвету «Бацькаўшчыны» часткі праграма Сустрэчы былі запісаныя на відэайстужку.

**Я. З.**

# XX-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ

**Гутаркі вяла Зора Кіпель**



*Урачыстасьць на могільніку у Іст Браўнсьвіку.* *Фота А. Сільвановіча*

Выказваньні людзей на сёлетняй, 20-ай, Сустрэчы былі самыя разнастайныя — часам філязофскія і сэнтымэнтальныя, часам рэальныя і аналітычныя, прасьцейшыя ці больш глыбокія — аднак праводнай ніткай праз усю тканіну ўражаньняў прайшла тэза: супрацоўніцтва, сяброўства, дэмакратычны працэс, супольная мэта — адраджэньне поўнай незалежнасьці Беларусі.

**Віталі Кажан з Кантэктыкут.**

Усе было надзвычайна добра і ўдала. Задаволены, што шмат людзей зь Беларусі. Эміграцыя ўжо не адна. Канцэртная частка асабліва яскрава гэта паказала — бальшыня артыстаў зь Беларусі. Пазнаёміўся зь Беларускім Консулам у Вашынгтоне — ён з маіх мясцоў. Прыемна было пагутарыць. Добрыя даклады Кіпеля і Запрудніка — нашых двух лідараў, якія ня гаснуць, а усё больш квітнеюць. Наагул Спатканьне было на узроўні. Арганізатары, а асабліва бацька і сын Азаркі, зрабілі добрую справу.

**Вячка Станкевіч, дырэктар Беларускай Сэкцыі Радыё «Свабода» зь Мюнхэну.**

Ад апошняй сустрэчы павялічэньне, што сустрэча гэтая ня толькі Сустрэча Беларусаў Паўночнае Амэрыкі, але і Эўропы і Беларусі — сёлета дасягнула ўжо вышэйшага ўзроўню, вышэйшага прадстаўніцтва. Цікавым было актыўнае зацікаўленьне прадстаўнікоў урадавых установаў — П. Краўчанкі і другіх працаўнікоў Міністэрства Замежных Справаў, Г. Бураўкіна і іншых. Адна яшчэ цікавая тэза — працяг нацыянальнай дзейнасьці на эміграцыі аж ад 1918 году. У тым-жа духу, на зборцы гімназістаў, вычувалася, што гадунцы Гімназіі імя Янкі Купалы служылі як бы лучывам паміж тымі, хто пачынаў адраджаць незалежнасьць у пачатку стагодзьдзя і тымі, хто яго ужыцьцяўляе цяпер. Гэтаксама прыемна зазначыць прыстойны вонкавы выгляд цэлай сустрэчы. Цешуся, што мы змаглі зрабіць і для перадаваньня па радыё «Свабода» урыўкі з Сустрэчы.




*На сымпозіуме. Прамаўляе В. Голубеў.* *Фота А. Сільвановіча*

**Васіль Цар з Нью-Джэрзі.**

Гэта мая першая сустрэча. Я зусім неспадзявана сюды трапіў. Я ўжо тут, у Амэрыцы 14 месяцаў і увесь час стараўся знайсьці беларусаў, але ўсё не ўдавалася. І вось зусім прыпадкова даведаўся, што ёсьць у Нью-Джэрзі беларусы і плянуецца сустрэча. Першае маё ўражаньне — чыстая беларуская мова, проста дзіўна, як людзі яе перахавалі. Сустрэлі мяне як роднага. Усе з кім я размаўляў людзі вельмі прыемныя, сардэчныя. Ст. Тамара была адна з першых з кім я гаварыў. Пабачыў гэтаксама людзей, пра якіх чуў і нават і ня марыў пабачыць — як Сяржук Сокалаў-Воюш. Пабыў як у сям'і — так было ўсё цёпла.

**Адольф Субота з Нью-Джэрзі.**

Вельмі добрая сустрэча. Лепш не магло быць. Спаткаў самых важных людзей з Фронту. Вялікае ўражаньне зрабіў Голубеў, які сядзеў побач міністра Краўчанкі і так свабодна гаварыў. Відаць што дэмакратыя усё-ж крыху дзейнічае. Прыймаў удзел у гутарках пры круглым стале на палітычныя тэмы. Усім нам гэткія спатканьні і разважаньні цяпер вельмі патрэбныя і важныя. Быў гэтаксама на спатканьні Гімназіі імя Янкі Купалы. Прыемна было пабачыць, што былыя вучні Гімназіі ушанавалі сваю школу. Скеч Шчэцькі і Вайцяхоўскага «Пан і акуляры» прыгадаў маладыя гады.

**Аляксандар Сільвановіч з Нью-Джэрзі.**

Вельмі глыбокае ўражаньне зрабіла на мяне урачыстасьць на беларускім могільніку у Іст Браўнсьвіку. Было шмат прысутных, сярод іх шмат гасьцей зь Беларусі. Каля прыгожа ўдэкараванага помніка і Курапацага Крыжу была адслужаная паніхіда Мітрапалітам Мікалаем у асысьце а. Карпа з Дораты, Нью-Джэрзі, а. Міхася з Кліўленду, а. Васіля з Гайланд Парку ды а. Іована з Каліфорніі. Вельмі праніклую прамову сказаў сп. Шукелойць, у якой ён падкрэсьліў, што гэты помнік пастаўлены ўсім беларускім гэроям, дзе-б яны не знаходзіліся, што аддалі жыцьцё, каб жыла Беларусь. Уся гэтая урачыстасьць была запісаная на стужку для Беларускага Тэлебачаньня ў Менску...

**Тамара Ст. з Нью-Джэрзі**

Вельмі цікава было чуць два розныя бакі — асабліва палітычны і эканамічны. Слухаючы Краўчанку верылася, што тое што ён сказаў — дзеецца, але пачуўшы Голубева пачалі ў сярэдзіне быць канфлікты. Хацелася-б, каб знайшлася нейкая залатая сярэдзіна. Мы ведаем, што ня ўсё там гладка й ружова, але хочацца верыць, што Беларусь адродзіцца. Пры круглым стале вельмі сумна было чуць пра стан беларускай мовы — яшчэ далёка ня ўсюды ўведзеная. Маё жаданьне было-б, каб акрамя беларускай мовы пачалі вывучаць і ангельскую, бо яна мова інтэрнацыянальная — асабліва дзеля таго, каб больш эфэктоўна дзеяць на Заходнім рынку.



*Фрагмэнт з выстаўкі.* *Фота А. Сільвановіча*

**Тамара Аўдзей з Нью-Джэрзі.**

Гэта мая першая сустрэча. Было вельмі прыемна пабачыць сяброў, якіх ня бачыла ўжо 40 гадоў. Проста было дзіўна, аж не рэальна. Усіх памятаю з канца 40-ых гадоў і думала, што яны павінны былі выглядаць, як я іх памятаю — гэта не справядліва, што яны такімі не засталіся. Я заўсёды памятаю і ўспамінаю як мы, дзяўчаткі, арганізоўвалі некалі дзявочы скаўтынг. А цяпер гэтыя дзяўчаткі амаль ўсе ўжо бабулькі. Я вельмі была захопленая і ўдзячная камітэту за ідэю арганізаваньня сустрэчы гімназістаў. Я ніколі-б інакш не спаткала 90 працэнтаў зь іх. Хоць цяжка было ўсіх пазнаць, але праз некаторы час — злучэньне гэтых двух уяўленьняў — тады і цяпер — і ты атрымоўваеш новае ўражаньне гэтых двух спалучэньняў і ў гэтым новым кантакце ты чуешся ўсё больш і больш выгадна й задаволена. Я вельмі ўдзячная нашай Гімназіі. Пасьля Гімназіі нам былі адчыненыя дзьверы ва унівэрсытэты, што дало нам магчымасьць здабыць прафэсіі. Мы мелі цудоўных настаўнікаў. Мяне вельмі зьдзівіла, зь якім рэспэктам глядзелі на наш дыплём — нам давалася шмат крэдытаў на унівэрсытэтах. Прыемна было бачыць, як вы ўсе працуеце, столькі сілы было ўкладзена сабраць ўсіх. Прыемна было пачуць, як я толькі зайшла ў залю: др. Кіпель, др. Запруднік, др. Алла Орса — гэта-ж усе мае сябры — што яны дайшлі да такой ступені, што яны вядуць тут жыцьцё. Такой радасьці ў нашыя гады цяжка і ўявіць. Надзвычайная ідэя напісаць кніжку пра гімназію.



*Удзельнікі Статканьня Гімназістаў.* *Фота Д. Мельяновіч*

**Іна Каханоўская з Кліўленду.**

Шчасьлівая была ўсіх пабачыць на спатканьні Гімназіі. Успомніла ўсіх настаўнікаў, вучняў. Гімназія была маёй сям'ёй, асабліва пасьля таго, як памерла мая дачка Іначка — усе вучні былі маімі дзецьмі. Заўсёды сачыла за посьпехамі сваіх вучняў, ганарылася імі. Шкадавала, што мае калегі не дажылі, альбо не змаглі прыбыць на спатканьне — была я толькі адна настаўніца. Калі засьпявалі мне «Многае Лета», дык заплакала. Удзячная, што моладзь нас памятае, што прадаўжаюць працу, якую мы некалі рабілі.

**Косьцік Вайцяхоўскі з Каліфорніі.**

Вельмі прыемнае уражаньне ад сустрэчы. Ня бачыўся даўгі час з калегамі, асабліва з гімназістамі. З нагоды майго прыезду на сустрэчу, меў прыемнасьць пабыць у мясьцінах, дзе раней жыў. Даўно я ўжо тут ня быў — якіх 20 гадоў. Што мне найбольш спадабалася — гэта сяброўская атмасфэра, добрая арганізацыя. Выставы беларускай літаратуры. Асабліва-ж прыемным было нашае школьнае спатканьне, дзе мы абмяняліся ўражаньнямі, эпізодамі лягернага жыцьця — успамянулі маладыя гады.

# XX-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЕ АМЭРЫКІ





*Група ўдзельнікаў Сустрэчы.* *Фота Ю. Корчыка*

**Янка Ханенка з Кліўленду.**

Сустрэча цудоўна падрыхтаваная — на высокім узроўні. Я ведаю з практыкі, як цяжка ўсё гэта робіцца. Зразумела, што бываюць у такой арганізацыі невялічкія недахопы. Адным з пажаданьняў надалей, каб па магчымасьці усё адбывалася ў адным мейсцы — можа ў сваім цэнтры. У гатэлі — шмат выдаткаў. Я спачуваю гэтым людзям, што арганізаваюць, бо ведаю як шмат клопатаў і працы гэта каштуе.

**Іван і Соня Бурдзь з Вініпэгу, Канада.**

Ужо чацьверты раз на сустрэчах. Апошні раз былі ў Кліўлендзе. Гэта найлепшая што бачыў, — зазначае сп. Бурдзь. Мінулая была добрая, бо ў сваёй новай залі, але гэтая сапраўды першаклясная. Найбольш спадабаўся канцэрт. Вельмі цікавая выстаўка абразоў, асабліва таленавіты Алег Махнюк, мой сябра з Ватэнштэту. Няма ніякай крытыкі, але пажаданьне, каб мы ўсе дагаварыліся, трымаліся разам, бо нас усё менее й менее.

**Язэп Арцюх з Каліфорніі, рэдактар часопісу "Belarusian Review"**

Для мяне гэтае спатканьне вельмі важнае, бо навязаў шмат кантактаў зь людзмі палітычнага кірунку ды гэтаксама з маладымі беларусамі, якія даюць надзеі, што будуць дапамагаць мне ў выданьні часопісу — пісаць артыкулы. Агульнае ўражаньне аб сустрэчы вельмі добрае. Вельмі задаволены, што прыехаў. Прымаў удзел у розных дыскусыях і імпрэзах, як прыкладам круглы стол па палітыцы, у якім я быў вядучым. Другая дыскусія была наконта арганізаваньня Сусьветнай Сустрэчы ў Беларусі. Я падтрымліваю гэтую думку — думка добрая, але арганізацыя не мусіць быць яшчэ добра апрацаваная там, у Менску. Што мяне добра ўразіла, гэта, што была салідная рэпрэзэнтацыя ад ураду й парлямэнту зь Беларусі — людзей розных палітычных перакананьняў. Гэтаксама цешыла, што была шмат прадстаўнікоў мастацтва й культуры.



*На канцэрце.* *Фота Ю. Корчыка*

**Валянціна Трыгубовіч зь Менску.**

У Амэрыцы першы раз. Ляцелі сюды самалётам Lufthansa. Калі пачалася аб'ява рэйсу, былі вельмі прыемна зьдзіўленыя, бо было гэта на беларускай мове. Нажаль Беларуская лінія усё яшчэ прадаўжае вітаць падарожнікаў на расейскай мове. Тут мы трапілі ў беларускае асяродзьдзе, да сваіх — не адчулі сябе нават, што мы недзе ў замежнай краіне. Спаткалася з Аллай, якая ўсё так дакладна для нас падрыхтавала. Былі мы праз ўвесь наш пабыт тут вельмі занятыя — ня было часу на турыстыку. Толькі на хвілінку забегла ў Музэй. Усе нашыя справы былі для Беларусі. Амэрыку пабачыла толькі з вокнаў альбо самалёту, ці машыны ці цягніка. Сустрэча была добра арганізаваная; і, на маю думку, сустрэчы гэткія вельмі патрэбныя. Сумпозыум быў добра зроблены — гэта дало магчымасьць усім выказацца. Спаткала людзей, якіх знала аб праз лісты — і гэта мне дало магчымасьць спалучыць твары зь лістамі, — альбо якіх ўжо раней бачыла і зь якімі было зноў вельмі прыемна спаткацца. Гэта ўсё ўзбагаціла мяне як чалавека, як працаўніка БНФ — пашырыла пагляды, разуменьне дэмакратыі.

**Галіна Левашкевіч зь Менску.**

Другі раз ужо на сустрэчы і бачу ўсё тыя шчырыя твары і шчодрыя сэрцы. Чула гарачыя прамовы, каб агульнымі сіламі — эміграцыя і Бацькаўшчына — цесна працавалі на карысьць Беларусі. Беларусь шмат перанесла, і цяпер змагаемся з Чарнобыльская гідрай, але яшчэ страшней духовы Чарнобыль. Таму нам трэба рабіць ўсё, каб выхаваць пакаленьне, якое-б ганарылася Беларусяй, мела нацыянальную сьведамасьць і годнасьць праз пазнаньцё беларускай гісторыі, культуры, спадчыны — нацыянальных каштоўнасьцяў. Агульнае ўражаньне аб сустрэчы? Лічу што сёлетняя 20-я Сустрэча — гэта поўнае й высокае сьвята, калі на сцэне і ў залях гучыць адзінства й паразуменьне.

**Галіна Русак з Нью-Джэрзі.**

Як адной з арганізатараў, мне цяжка быць аб'ектыўнай. Але я лічу, што гэта адна з найлепшых, а мо й найлепшая з сустрэчаў. Яна якраз сталася ў такі крытычны час, яна паказала ўсім госьцям — афіцыйным і неафіцыйным — важную ролю эміграцыі. Думаю, што прывітаньне прэзыдэнта Буша вельмі выразна падкрэсьліла падтрымку Беларускай Дзяржавы на дэмакратычных, а не камуністычных асновах. Я думаю, што гэта добра пачуць ураду на Беларусі, думаю, што эміграцыя выразна паказала, дзе яна стаіць. Я задаволена з арганізацыі, з камітэту. Вельмі малая, але дзейная і адказная група, якая папрацавала шмат, і рэзультат — надзвычайны. Я лічу, што гэта быў форум, на якім была магчымасьць выказаць розныя пагляды. Задаваленая я тым як прайшоў сымпозыум. Былі моцныя прамовы. Вітаўта я ўжо пацалавала за ягоную. Канцэрт гэтаксама вельмі ўдалы. Увогуле пазытыўнае ўражаньне.

**Леанід Норык з Канектыкут.**

Нажаль ня быў на цэлай сустрэчы, але што мне спадабалася і зрабіла на мяне асабліва добрае ўражаньне — гэта дэмакратычны працэс, ды што прыезджыя удзячныя эміграцыі за тое, што мы перахавалі ідэі незалежнасьці. Прыемна было пачуць, што супрацоўніцтва з намі ім шмат дапамагае ў культываваньні талерантнасьці да розных паглядаў, у дэмакратычным падыходзе. У прамовах падкрэсьлівалася важнасьць дэмакратычных працэсаў, важнасьць перахаваць дух беларускасьці, падтрымаць беларускую мову, каб ня стаўся духовы Чарнобыль, як заўважыла адна з прамоўцаў. Гэты зьезд выразна падкрэсьліў, што патрэбныя агульныя выбары, што толькі тады Беларусь будзе свабоднай. Спадар Кіпель моцна сказаў. Два гады таму гэткая абмена думкамі й паглядамі яшчэ ня была магчымай. І Фронт і Урад і Эміграцыя — розныя пагляды, але ўсё вельмі цывілізавана.



*Пры Царкве Жыровіцкай Маці Божай у Гайлянд Парку.* *Фота А. Дубягі*

**Алеся Кіпель з Вашынгтону.**

Вельмі задаволеная, што прыехала на Сустрэчу. Прыемна было пабачыцца з усімі сябрамі маленства. Мне, як адвакату, было цікава пабыць на зборцы Фонду Адраджэньня, дзе адным з пунктаў было тымчасовае зацьвярджэньне Статуту гэтай арганізацыі. Фонд гэты вельмі важны, асабліва цяпер, і неабходна яго падтрымліваць. Спадабалася мне вельмі мастацкая выстаўка — добры падбор абразоў, разнастайнасьць стыляў, прыгожа і эфэктоўна выстаўленыя. Я крыху памагала брату у апошніх дэталях рыхтаваньня на забаву і, нажаль, не змагла браць удзелу у нарадах круглых сталоў. Асабліва хацелася-б пабыць на дыскусіі аб Чарнобылі, якую вяла сп-ня Сурвілла. Яшчэ, што кідалася ў вочы — гэта вялізарны плякат, які вітаў настаўнікаў і вучняў Гімназіі Янкі Купалы надзвычайна ўдала выкананы, як я даведалася, Нонай Азаркай. Мы бачылі пэўны гумар у тым, што вісеў ён проста над барам.



*Сяброўкі спаткаліся. Фота І. Сурвілла*



*На банкеце.* *Фота Ю. Корчыка*

**Івонка Сурвілла**

# УРАЖАНЬНІ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ
## (Заканчэньне. Пачатак гл у но. 390 і 391, 392)




*Па дарозе ў Засульле. Фото Івонкі Сурвіллы*

У Засульлі царквы ўжо няма. Месца, дзе яна стаяла, на скрыжаваньні менскай шасы і галоўнай вуліцы, зарасло пустазельлем. Вуліца і надалей ня брукаваная. Хатка маіх дзядоў стаіць, старэнькая, памаляваная сінім колерам. Некалі была цёмна жоўтая. Перад хатай, дзе калісь быў сад і поўна кветкаў — пуста. На плоце, заміж збанкоў, вісяць шкляныя слоікі.

Рэчку за лугам мусіць высушылі. Мяма й млыну, за якім так прыгожа ўставала сонца. Між Засульлем і Зарэччам стаяць цяпер панурыя калгасныя будынкі.

На другім баку вуліцы, дзе знаходзіліся дзедавае гумно, хлеў ды сьвіран, цяпер стаяць чужыя хаты. Толькі каменны склеп, дзе перахоўвалася бульба і ў якім мы сядзелі падчас нямецкага нападу, яшчэ стаіць. Там нас і знайшоў тата, калі вярнуўся дамоў пасьля дзевяці месяцаў у савецкай турме. Яшчэ памятаю зь якім шчасьцем мама, у якой я драмала на руках, назвала імя таты калі пабачыла яго на парозе.

Наагул вёска робіць прыемнае ўражаньне. Пры вуліцы вырасла за апошнія пяцьдзесят гадоў шмат высокіх дрэваў. Хаткі маляўнічыя, хаця ў большыні не такія, якімі я іх памятала. Цапер памаляваныя яны на сіні ці зялёны колер, усюды заміж сенцаў шкляныя вэранды, студні пакрытыя стрэшкамі. Толькі стрэхі на хатах хацелася-б, каб былі саламянныя або пакрытыя дранкай, як гэта было калісь.

Ня ведаю ці адчувала сябе дома. Балела сэрца, што ў дзедавай хаце жывуць цяпер чужыя, незнаёмыя мне людзі. Але ўсё-ж туды мяне зноў цягне. Мо хоць на палатне зьберагу тое, што яшчэ засталося, што прыгожае ды мілае сэрцу.

У Стоўпцах знайшлі мы з братам, які падарожнічаў са мною, шпіталь, дзе абое радзіліся, і царкву, дзе мяне хрысьцілі, Царква стаіць на ўзгорку, між высокімі дрэвамі. Якраз адбываўся малебен. Было шмат вернікаў, пераважна жанчын. Перад царквой спаткала прыгожую жанчынку, укутаную ў вялікую ваўняную хустку. Спыталася яе ці можна зрабіць здымку. Спачатку не хацела, баялася, што будзем зь яе сьмяяцца, але калі запэўнілі, што ня будзем — згадзілася. Здымак гэты ілюстраваў першую частку маіх уражаньняў з бацькаўшчыны ў «Беларусе» (но. 390 — *рэд.*) Выявілася, сто жанчына была перасяленкай з чарнобыльскай зоны. Моцна наракала на лёс.

Найбольш уражаньняў і ўспамінаў вынесла зь Менску, дзе правяла восем дзён. Глыбокія й сярдэчныя перажываньні былі выкліканыя усімі праявамі зьвязанымі з адраджэнскім рухам: Соймам БНФ, на якім разглядалася пытаньне Рэфэрэндуму; перадачай для Выбарчай Камісіі больш за 400 000 подпісаў за Рэфэрэндум; спатканьне, з гэтай нагоды, са шматлікімі, незнаёмымі мне, але так блізкімі суродзічамі, спатканьні з мастакамі, аб якіхужо ўспамінала ды зь іншымі прыяцелямі. Хацелася-б яшчэ падзяліцца колькімі ўражаньнямі, якія пакінулі ўва мне глыбокі сьлед.

У Менску, у доме Телебачаньня, неспадзяваная трапіла на спэктакль групы дзетак Ларысы Сімаковіч. Дзяўчаткі й хлапцы ў веку ад шасьці да дзевятнаццаці гадоў выконвалі прыгожа сцэнізаваныя старадаўнія беларускія традыцыйныя песьні і заклiканьні з такім майстэрствам, што я запрасілася й на наступны спэктакль, які меў адбыцца пару дзён пазьней. Гэтым разам узяла з сабою брата разам з францускай дэлегацыяй, якая зь ім якраз была ў Менску. І зноў усе мы захапляліся тым, што бачылі і што чулі.



*Царква ў Стоўпцах. Фота І. Сурвіллы.*

Колькі дзён пазьней мела нагоду зноў цешыцца й ганрыцца сваімі малодшымі суродзічамі. Гэтым разам дэпутат Гарадзкой Рады Галіна Вашчанка завяла мяне ў Беларускі Ліцэй. Там спаткалася з паўтарысотняй вучняў, якія на чысьцюсенькай беларускай мове разказвалі аб тым, як яны вывучалі беларускую мову яшчэ перад тым як адкрыўся Беларускі Ліцэй, наведвалі нядзельныя курсы, часам хаваючыся ад бацькоў. Іхныя расказы й пытаньні выявілі шырокія веды ў галіне беларускай праблематыкі, добрую паінфармаванасьць аб беларускім замежжы, глыбокі патрыятызм і высокі узровень інтэлектуальнага разьвіцьця.

Любоў да ўсяго беларускага я адчула таксама ў Музэі Акадэміі Навук Беларусі. Ня гледзячы на тое, што Музэй афіцыйна закрыты для ремонту, і што мы зьявіліся туды даволі позна, супрацоўнікі нас сардэчна прынялі і паказалі калекцыю. Дырэктар Віктар Шматаў расказаў аб цяперашнім стане калекцыі, а дасьледнікі Юры Піскун і Хадыка малодшы падзяліліся сваімі ведамі пра нашую мастацкую спадчыну, і асабліва пра беларускі іканапіс. Калекцыя іконаў Музэю вельмі багатыя. Праўда, шмат абразоў патрабуюць рэстаўрацыі і цяпер Музэй гэтым актыўна займаецца. У Музэі Акадэміі Навук ёсьць таксама цудоўная калецыя народнага мастацтва.

Адведала й Дзяржаўны Музэй Мастацтва Беларусі. Там пабачыла некаторыя з найболш вядомых іконаў беларускай школы, сярод якіх «Нараджэньне Маці Боскай» Пётры Яўсеевіча, на якой падушкі на ложку сьвятой Ганны вышытыя беларускімі ўзоркамі. Ікона, нажаль, вісела вельмі нізка, у цёмным кутку, і трэба было прасіць дазволу перaступіць бар'ер, што аддзяляе абразы ад публікі, каб яе добра пабачыць. Толькі маленькая частка Дзяржаўнага Музэю Мастацтва Беларусі была прысьвечаная беларускаму мастацтву. Найбольш мейсца было адведзена мастацтву расейскаму. Згадна з апошнімі весткамі, Музэй нядаўна выправіў гэтае становішча і прысьвяціў больш увагі беларускаму мастацтву.

18 і 19 красавіка мела шчасьце, дзякуючы ветлівасьці дэпутата Новіка, пабыць на беларускай Віленшчыне ды зьведаць Вільню. Шмат марыла аб гэтай частцы Беларусі, якая дала столькі выдатных постацяў нацыянальнага адраджэньня.

І было там чым захапляцца: ад маестатычнай Вяльлі (так там называюць Вілію) да прыгожага кальвінскага храму ў Смаргонях, ад сымпатычнага мястэчка Жодзішкі да маляўнічых вёскаў Жупраны і Вайнідзняты, праз Гарыдзяняты, Расло ды Асінаўшчыну. Людзі, якіх мы спатыкалі былі ветлівыя й гасьцінныя і ў большыні гаварылі па-беларуску. У Жодзішках група ражыхароў абступіла дэпутата Новіка і прасіла ў яго дапамогі для іхнага ксяндза, якога намагаўся выгнаць новапрыбылы польскі ксёндз. Дэпутат Новік паабяцаў заняцца гэтай спёравай.

Недалёка ад Жодзішкаў наведала родную мясьціну маці майго мужа, дзе ён правёў частку свайго дзяцінства. Гэта маляўнічы куточак над Вяльлёю, засьценак Мель. За які кілёмэтар адтуль знаходзіцца іншы засьценак, Плавушка, дзе нарадзіўся нац слаўны Андрэй Цікота. Вось-жа, у засьценку Мель, спаткала дзядзьку майго мужа. Яму ўжо больш за восемдзесяць гадоў, і якое было нашае зьдзіўленьне калі ён нам прадэклямаваў, напамяць, паэму Янкі Купалы «Курган». Муж сказаў мне, што паэму гэтую ён ад дзядзькі навычыўся, калі яшчэ ня ўмеў чытаць, і цяпер яшчэ памятае.

Старая Вільня, гэта магчыма адзін з найпрыгажэйшых гарадоў, што я калісьці бачыла. На кожным кроку пэрспэктывы як-бы спэцыяльна прыдуманыя й заплянаваныя для мастака — папросту гатовыя кампазыцыі. Маляўнічыя, разнакаляровыя домікі. Вострабрамская вуліца дасюль выглядае такой, якой яе бачыў тата ў пачатку трыццатых гадоў, калі вучыўся ў Вільні, ды пазьней маляваў.

Спадар Луцкевіч абвадзіў нас па ўсіх гістарычных мясьцінах, паказаў дзе выдавалася «Наша Ніва», дзе жылі й працавалі выдатныя беларусы. Пасьля абеду адбылося спатканьне з нашымі віленчукамі ў пакойчыку, які сучасныя летувіскія ўлады далі беларусам Вільні для іхных грамадзкіх патрэбаў. Знаходзіцца ён у доме, дзе такімі-ж пакойчыкамі карыстаюцца ўсе чужыя этнічныя групы ... Яшчэ цяпер цяжка аб гэтым пісаць.

Так, знайшла я маю Беларусь, мілую мне й дарагую, хаця й зьняможаную даўгалетнімі зьдзекамі, а цяпер Чарнобылям, але Яна жыве! Хочацца верыць, што Яна пераадолее гэтыя цяжкія выпрабаваньні, бо растуць і мацнеюць рады адданых Ёй сыноў і дачок, якія безкампрамісна змагаюцца за Ялёс.

## ХРОНІКА З АДЭЛЯЙДЫ, ПАЎДЗЁННАЯ АЎСТРАЛІЯ

У нядзелю 12 ліпеня Парафія Сьв. Апосталаў Пятра й Паўлы Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Адэляйдзе абыходзіла дзень сваіх патронаў На сьвята зьехаліся парафіяне й госьці, уключна з гасьцьмі з Мельбурну, а. Аляксандрам з матушкаю ды іншымі парафіянамі Беларускай Аўтакефальнай Беларускай Царквы. Літургію адслужылі а. Міхась і а. Аляксандар. На Малебне далучыўся да іх а. Уладзімір з Украінскае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Вельмі прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам Уладзіміра Калесьнікевіча.

Па заканчэньні Малебну адбыўся супольны абед. Айцец Міхась прачытаў рэфэрат на тэму аднаўленьня Беларускаў Аўтакефальнай Царквы 23 ліпеня 1922 году, 70-годзьдзе якога прыпадае якраз сёлета.

* * *

У чэрвені месяцы на стараньне Аўстралійскіх Скаўтаў прыехалі ў Аўстралію на адпачынак беларускія і украінскія дзеці пацярпеўшыя ад Чарнобыльскай катастрофы. На горад Адэляйду прыпала 24-х дзяцей і 4-х дарослых перакладнікаў. Беларускіх дзетак было 14, у веку ад 5-ёх да 12-ёх гадоў і адна перакладніца сп-ня Елена Бруй. Беларускія дзеці ўсе паходзілі з Гомельскай вобласьці, двух сярод іх сіроты. Сп-ня Бруй паходзіць з Гомелю. Яна расказвала пра стан радыяцыі зямлі — мясцамі чыста, а мясцамі радыяцыя даходзіць да 150 кюры. Цяпер кожная старая бабка ведае, што гэта «кюры». Дзеці выглядалі вельмі блага, усе блядыя на тварыках.

Беларускае Аб'еднаньне і Украінская грамада дасталі дазвол узяць дзяцей на тры гадзіны — прывітаць і пачаставаць іх. На пачастунак сабралася калі 60 асобаў аўстралійскіх, беларускіх і украінскіх дзяцей. Беларускае Аб'еднаньне сабрала 600 даляраў на падарунак і адзеньне для прыехаўшых дзетак.

**У. Акавіты**

**ПРЭЗЫДЫЮМ І САКРАТАРЫЯТ РАДЫ**
**БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ**
шчыра жадаюць добрага здароўя і ўсякае памыснасьці
ў далейшай дзейнасьці Старшыні Рады БНР
**др. ЯЗЭПУ САЖЫЧУ**
з нагоды ягоных 75-х угодкаў жыцьця, што споўніліся
5 верасьня 1992 году.
Многая лета!!!

## «У БЕЛАРУСЬ ЗЬ ЛЮБОЎЮ»

Пад такім загалоўкам атаўская газэта The Ottawa Citizen за 18-га жніўня сёлета апублікавала на першай бачыне вялікі каляровы здымак, на якім туляца дзьве дзяўчынкі у сьлязах. Адна зь дзяўчынак — беларуска. Яна прыбыла ў Канаду з Чарнобыльскай зоны шасьцітыднёвы адпачынак праз адпаведную праграму Канадыйскага Фонду Ахвярам Чарнобыля ў Беларусі. Другая дзяўчынка — гэта дачка канадыйскай сям'і, у якой нашая беларусачка адпачывала. І вось прыйшоў час разьвітаньня.

Здымак гэты апублікавалі і іншыя газэты. Давялося яе бачыць у мантрэальскай газэце The Gazette of Montreal пад загалоўкам «Назад у Чарнобыль», і ў тарантаўскай газэце Toronto Star.

Гэта адзін з абразкоў з пабыту беларускіх дзетак у Канадзе. Іх было 98, і 6 старэйшых асобаў каторыя іх суправаджалі. Правялі яны 6 тыдняў (ад 6 ліпеня да 17 жніўня) у канадыйскіх сем'ях каб адпачыць у экалагічна чыстым асяродзьдзі, з беззаганым ажыўленьнем ды узмоцніць імунную сыстэму. Такі адпачынак робіць дзяцей больш адпорнымі на ўсялякія захворваньні, калі яны вернуцца ў забруджаныя радыяцыяй мясцовасьці Беларусі.

Канадыйскае Міністэрства Аховы Здароўя сканстатавала ў некаторых дзяцей узровень радыяцыі цэзыя 137 назапашаньня у арганізьме. Выявілася, што у частцы дзяцей гэтая радыяцыя, за прыблізна 5 тыдняў, поўнасьцяй зьнікла, тады калі ў іншых — якія ад верасьня мінулага году, каб сабраць неабходныя, даволі паважныя фонды. Утрыманьнем дзяцей займаліся сем'і ў якіх яны жылі, і якія не шкадавалі высілкаў і сродкаў каб побыт беларускіх дзетак у Канадзе быў як найбольш прыемным і карысным. Вярталіся яны дамоў не з пустымі валізкамі. Кожны атрымаў таксама вітаміны, якіх хопіць і для дзяцей і для сям'і на год часу.

Выбарам дзяцей для прыезду ў Канаду і ўсімі фармальнасьцямі зьвязаныя з падарожжам займаўся Беларускі Дабрачынны Фонд «Дзецям Чарнобылю» (старшыня Генадзь Грушавы). На нашую просьбу у групе былі дзеці інвалідаў Чарнобылю і многадзетных сем'яў Гомельшчыны, Магілёўшчыны і Берасьцейшчыны. Было колькі дзяцей каторыя прыехалі ў Канаду ўжо другі раз, але гэтага зажадалі некаторыя сем'і, якія ўзялі на сябе пакрыцьцё коштаў. Рэглямэнт Канадыйскага Фонду не дазваляе паўторнага прыезду тух самых дзяцей.

Канадыйскі Фонд Дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі быў створаны групаў канадыйскіх беларусаў у верасьні 1989-га году, калі былі выяўленыя памеры трагэдыі у якой апынуўся беларускі народ у выніку чарнобыльскай катастрофы. Апрача праграмы прывозу на адпачынак дзяцей Фонд высылае лекі, вітаміны, аднаразовыя шпрыцы. У мінулым годзе выслаў 43 каляскі для інвалідаў. Фонд запачаткаваў таксама праграму прыезду беларускіх лекараў і мэдычных сёстраў на



*Кампанія Bell Northern Research арганізавала пікнік для дзяцей, у часе якога той хто меў дома телефон мог пагутарыць з бацькамі.*

мелі яшчэ больш — яна на шмат зьнізілася.

Усе выдаткі зьвязаныя з прыездам дзяцей, пачынаючы ад аплаты падарожжа зь Менску ў Атаву і назад, а таксама кошты візаў і страхоўкі здароўя былі пакрытыя Канадыйскім Фондам дапамогі Ахвярам Чарнобылю ў Беларусі. Сябры і супрацоўнікі гэтай арганізацыі працавалі аддана й напружана двумесячны стаж у канадыйскіх шпіталёх для азнаямленьня з мэтадамі працы тутэйшых лекараў ды з арганізацыяй і асягненьнямі канадыйскай мэдычнай абслугі. Дасюль два лекары і адна мэдычная сястра скарысталі з гэтай праграмы. Яны працавалі ў анкалягічнай клініцы Дзіцячага Шпіталю Усходняга Антарыё ў Атаве.

**Івонка Сурвілла, Старшыня Фонду.**

# СЬВ. ПАМ. ПЁТРА КАЖУРА 20.VI.1913 — 15.VIII.1992



Сьв. Пам. Пётра Кажура нар. ў вёсцы Карповічы, Вялейскага Павету. Быў ён змабілізаваны ў польскую армію; у 1939ым годзе трапіў у нямецкі палон. Пасьля вайны П. Кажура адразу ўлучаецца ў беларускае грамадзкае жыцьцё: ён змагаецца за вылучэньне беларускіх нацыянальных групаў у лягерох перамешчаных асобаў, навязвае сувязь і супрацоўніцтва з беларускаю студэнцкаю арганізацыяю ў Марбургу. П. Кажура высока цаніў адукацыю ды заахвочваў і памагаў маладым беларусам паступаць у вышэйшыя школы.

У Злучаныя Штаты сям'я Кажураў прыехала ў 1949-ым годзе й пасялілася сьпярша ў Саўт Рывэры, а пасьля ў Нью Бранcьвіку і Гайленд Парку, Нью-Джэрзі. Перад тымі, што першымі прыехалі ў Амэрыку ясна стаяла заданьне: павялічыць колькасьць імігрантаў-беларусаў, заснаваць свае парахвіі й грамадзка-палітычныя арганізацыі. І тут Пётра Кажура поўнасьцю пасьвяціўся гэтай мэце. Ён дапамог шматлікім сем'ям прыехаць у Амэрыку, быў удзельнікам заснаваньня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, парахвіяў БАПЦ, вэтэранскіх ды палітычных арганізацыяў. Ён быў праз доўгія, гады старшынёю Парахвіяльнай Рады Парахвіі БАПЦ Божай Маці Жыровіцкай, Старшынёю Аддзелу БАЗА, быў сябрам Амэрыканскага Легіёну ў Гайленд Парк. Асабліва вялікім дасягненьнем Пётры Кажуры была купля царкоўнай маемасьці ў Гайленд Парку, што ёсьць сяньня цэнтрам нашай дзейнасьці.

Зацікаўленьне Пётры Кажуры беларускімі справамі й справамі Беларускай Праваслаўнай Царквы ня было абмежана да Злучаных Штатаў Амэрыкі, яно ахапляла ўсю Беларусь і краіны пасяленьня беларусаў. І так: ён дапамагаў у будове й адбудове спаленых цэркваў у Беласточчыне, ён падтрымліваў усе выдавецкія пачыны як царкоўнага так і сьвецкага характару; ён быў асабліва зацікаўлены ў друкаваньні царкоўных кнігаў. Пётра не прапусьціў ні воднага падарожніка, што ехаў на Бацькаўшчыну ці краіну, дзе жывуць Беларусы, каб не паслаць праз яго «Беларускі Малітоўнік» суродзічам.

Пётра й яго жонка Марыя добра ўзгадавалі сваіх дзяцей: Аню, Альгерда й Галіну і далі ім добрую асьвету.

На паховіны с. п. Пётры, што мелі месца ў сераду, дня 19-га жніўня шмат прыяцеляў і знаёмых. Разьвітальнае слова на магільніку сказаў Старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. А. Шукелойць. «Сьпі пад Курганам Героя» была заслужаная песьня для с. п. Пётры. На памінальным абедзе пасьля паховін, Настаяцель Парахвіі а. прат. Васіль, сп. В. Русак і сп. М. Тулейка падзяліліся з прысутнымі аб с. п. Пётру Кажуру як царкоўнаму дзеячу, грамадзкаму арганізатару й дзеячу, што ніколі свае працы ня спыніў, да асобе, зь якой мы павінны браць прыклад.

**В. Русак**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Ад нашага прадстаўніка сп. Б Даніловіча:*

| | |
|---|---|
| Іван Аўдзей | ам. дал. 50.00 |
| А. Каравайчык | 50.00 |
| Др. Ю. Кіпель | 50.00 |
| В. Навіцкі | 50.00 |
| П. Алексы | 30.00 |
| С. Дубоўскі | 30.00 |
| Ю. Азарка | 25.00 |
| А. Хрэноўскі | 25.00 |
| В. Касьцюковіч | 25.00 |
| П. Нядзьвецкі | 25.00 |
| а. Я. Мол | 25.00 |
| М. Аляксандар | 25.00 |
| Разам | 410.00 |

*Сабрана на газэту «Беларус» у часе Сустрэчы Беларусаў у часе Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі:*

| | |
|---|---|
| М. і Н. Рагуля | ам. дал. 100.00 |
| Я. і К. Вініцкія | 50.00 |
| К. Вайцяхоўскі | 50.00 |
| Я. і І. Сурвілла | 50.00 |
| В. Заморская | 50.00 |
| У. Русак | 50.00 |
| М. Ганько | 30.00 |
| Л. Шурак | 30.00 |
| Я. Каваленка | 30.00 |
| Р. Станкевіч | 30.00 |
| Я. і П. Сапяжынскія | 20.00 |
| В. Станкевіч | 20.00 |
| К. Мярляк | 20.00 |
| А. Ліхач | 20.00 |
| М. Каранеўскі | 20.00 |
| А. Непеін | 20.00 |
| М. Абрамчык | 20.00 |
| Б. Даніловіч | 20.00 |
| Л. Норык | 20.00 |
| В. Стус | 20.00 |
| Я. Азарка | 20.00 |
| Я. Ханенка | 20.00 |
| Ю. Андрусышына | 20.00 |
| А. Субота | 20.00 |
| а. В. Андрэюк | 20.00 |
| Ф. Бартуль | 20.00 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 20.00 |
| А. і В. Дубяга | 20.00 |
| М. і К. Верабей | 20.00 |
| Л. Колін | 20.00 |
| А. і Т. Кольба | 20.00 |
| Т. Супрун | 10.00 |
| Н. Вайцяхоўскі | 10.00 |
| К. Субота | 10.00 |
| А. Дубяга | 10.00 |
| К. Калоша | 10.00 |
| Л. Стагановіч | 10.00 |
| а. М. Страпко | 5.00 |
| Місія БАПЦ (Каліфорнія) | 5.00 |
| Ул. Э. Рыжы | 5.00 |
| В. Шчэцька | 5.00 |
| С. Груша | 5.00 |
| Ананімна | 89.00 |
| Разам | 1084.00 |

*Прысланa непасрэдна ў рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| Эўдакія Жызьнеўская | ам. дал. 2 000.00 |
| Ф. Бартуль | 100.00 |
| М. Занковіч (Францыя) | 74.00 |
| Атрымана ад беларусаў з Паўднёвай Аўстраліі праз У. Акавітага (ахвярадаўца: М. Костышын і з продажы) | 66.87 |
| Разам | 2.240.87 |

*Заміж кветак на магу с. п. Пётры Кажуры*

| | |
|---|---|
| М. і В. Махнач | ам. дал. 50.00 |
| Др. У. Набагез | 100.00 |
| М. Кажура (у памяць мужа) | 100.00 |
| Разам | 250.00 |

## СЬВ. ПАМ. АЛЯКСАНДАР СУХАВЕРКА

3-га ліпеня 1992 году памёр добры парафіянін Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, Аляксандр Сухаверка.

Нарадзіўся 22-га верасьня 1931 году ў мястэчку Бяленічы, Магілёўскай вобласьці.

Заставіў у жалобе жонку Зіну і сына Анатоля. Пахаваны быў настаяцелем Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы а. Міхасём Бурносам на магілках Дадліпарк ў Адэляйдзе.

Парафіяльная Рада выказвае глыбокія спачуваньні жонцы Зіне і сыну Анатолю.

Вечная памяць табе дарагі дружа!

Няхай будзе табе лёгкая аўстралійская зямля.

**Царкоўная Управа**

**Ліст у рэдакцыю.**

## ПАВ. СП. РЭДАКТАР БЕЛАРУСА:

Тут перасылаю чэк на суму — 2,000.00 даляраў на выдавецкі фонд газэты «Беларус». Мне ўжо, дзякаваць Богу, 91 год і за свайго жыцьця, я яшчо хачу злажыць свой падарак на падтрыманьне беларускага вольнага слова. Аднаразова, я заклікаю ўсіх суродзічаў — пэнсыянераў, ужо ў старшым веку злажыць, яшчо за жыцьця, свае ахвяры на беларускую справу, на пашырэньне сьвятога імя БЕЛАРУСЬ.

Пры гэтай нагодзе я хачу даведацца ці рэдактары Беларуса і нашы «дзеячы» у вольным сьвеце чулі што Беларусь паўторна была абвешчана незалежнай дзяржавай? І чаму вы ўжываеце надалей маскоўска-сталінскі назоў Беларуссія? Будзьце ласкавы паясьніць гэту справу у газэце «Беларус». Bielarus/Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian American Assn., Inc. Што гэта азначае? Хіба-ж вам прыямней адчуваецца на душы маскоўска-сталінскае Беларуссія, чымся наша прадвечнае — сьвятое імя Беларусь? Бедны наш шматпакутлівы беларускі народ. Сталін ужо даўно сканаў, а выкараніць сталінятаў, яшчо зоймуць гады. Таксама, будзце ласкавы паясьніць праз газэту, што абазначае — Belarusan Newspaper? За 91 год майго жыцьця, я ніколі ня чула і не бачыла нідзе на пісьме каб Беларусь называлася БЭЛАРУСА. Нас называлі бела-расейцамі, белагвардзейцамі і ніхто не супрачаўся. Калі Сталін зьнішчыў беларусоў і ўсё беларускае ды на канец абрасеяў наш нацыянальны назоў Беларусь на Белоруссія, то ўсхвалялі яго! «Дзякуй бацька Сталін»! Але калі агаласілі Беларусь незалежнай, то абавязкам нашае эміграцыі ў вольным сьвеце ёсьць дапамагчы ўсімі сіламі каб Акт 25 Сакавіка, 1918 г. зьдзейсьніўся назаўсёды. А што робіцца? Там на радзіме гавораць за вольную Беларусь, а эміграцыйныя дзеячы рукамі, нагамі і зубамі бараняць Белоруссія. Божа, памажы Беларускаму Народу, — Беларусі!

Спадзяюся, што рэдакцыя «Беларуса», дасьць паясьненьне на мае пытаньні.

З пашанай, **Эўдакія Жызьнеўская**

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БЕЛАРУСКАГА ІНСТЫТУТУ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

| | |
|---|---|
| Др. М. Смаршчок | ам. дал. 500.00 |
| Др. А. Рамана | 150.00 |
| В. Кажан | 80.00 |
| А. і Н. Сільвановіч | 50.00 |
| Т. Аўдзей | 20.00 |
| Я. Юхнавец | 5.00 |
| Разам | 805.00 |

## ПАЯСЬНЕНЬНЕ ДА АРТЫКУЛУ ПРА «50-ЦІ ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ У ЧЫКАГА»

Справаздача пра «50-ці гадовы юбілей Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады ў Чыкага» зьмешчаная ў газэце «Беларус» но. 392 за месяц ліпень-жнівень 1992 г., падпісаная Міколам Латушкінам вымагае паясьненьня.

У справаздачы згадана, што а. Ян Тарасэвіч і а. Я. Рэшаць ды другія былі закладчыкамі Беларуска-Амэрыканскай Нацыянальнай Рады, але не згадана, што а. Ян Тарасэвіч (у газэце памылкова напісана Тарасюэвіч), старшыня Рады і а. Я. Рэшаць былі беларускія каталіцкія сьвятары ўсходняга абраду з Бэнэдыктынскага Ордэну.

Гэтаксама а. Янка Тарасэвіч і а. Я. Рэшаць былі заснавальнікамі ў 1955 годзе першай беларускай каталіцкай царквы ўсходняга абраду, якая знаходзіцца ў Чыкага пад адрасам: 3107 W. Fullerton Ave. Chicago, Il. 60647.

**Др. Вітаўт Рамук**

**Адказ Рэдакцыі**

## ШАНОЎНАЯ СПАДАРЫНЯ ЖЫЗЬНЕЎСКАЯ!

Рэдакцыя і Адміністрацыя газэты «Беларус» шчыра Вам дзякуе за такую шчодрую ахвяру і заклік да другіх пэнсыянераў рабіць гэтаксама. Няхай Вашая ахвярнасьць паслужыць прыкладам для ўсіх.

Што да другога пункту, які Вы ўзьнялі — пытаньне нашага нацыянальнага назову Беларусь у ангельскай мове — гэта усіх нас, як і Вас, вельмі клапоціць і турбуе. Пасьля афіцыйнай зьмены назову дзяржавы на Беларусь, здавалася-б усе нашыя праблемы разьвяжуцца. І, праўда, што да назоўніка «Беларусь» і яго эквіваленту у ангельскай мове "Belarus" справа нібы й наладзілася (поўнасьцяй, аднак, была-б справа заладжаная, каб ужывалася беларуская лацінка). Што да прыметніка «беларускі» у ангельскай мове існуюць два варыянты — "Belarusan" і "Belarusian". Газэта «Беларус», як і некаторыя іншыя беларуска-амэрыканскія арганізацыі, прынялі тымчасова форму "Belarusan", як больш граматычна абаснаваную. Дзеля таго, што назоўнік "Belarus" канчаецца на зычную "s", то прыметнік меў бы прыняць форму канчатку "an". Гэтая форма "Belarusan" пачала ўжывацца ў газэце ўжо ад кастрычніка мінула году. На вялікі жаль, у апошніх 4-х нумарох, дзеля тэхнічнага друкарскага недагляду, на першай бачыне зноў зьявіўся назоў "Byelorussian". Шчыра Вам дзякуем, што зьвярнулі на гэта ўвагу. Памылка гэтая напраўленая.

Што да назову арганізацыі БАЗА — зьмена назову зьвязаная зь легальнай зьменай уставу арганізацыі, што й мяркуецца ў бліжэйшым часе. Дзеля таго, што газэта зьяўляецца афіцыйным ворганам БАЗА, мы яшчэ, нажаль, мусім ужываць стары назоў. Спадзяемся, што ў хуткім часе гэта зьменіцца.

Яшчэ раз дзякуем за Вашую ахвярнасьць і турботы.

**З пашанай да Вас,**
**Рэдакцыя «Беларуса»**

## ПАДЗЯКА

Шчыра дзякуем усім, хто падзяліў наша гора з прычыны сьмерці дарагога мужа, бацькі й дзеда сьв. пам. Пятра Кажуры. Дзякуем за кветкі і за ахвяраваныя заміж кветак грошы на царкву ў Гайленд-Парку (570 даляраў), на праваслаўныя цэрквы ў Беласточчыне (500 дал.), на Праваслаўнае брацтва ў Менску (200 дал.) у Полацак і Слаўгарад на цэрквы (па 100 дал.) і на газэту «Беларус».

**Марыя Кажура і сям'я**